


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

12 чэрвеня 2015 года №24 (1050)



**15 гісторый 15 Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі** старонкі 6, 19



**Аляксей Нагіх: Ніколі так мала ў горадзе не будавалася дамоў** старонка 2



**Толькі ў чвэрці з праверaных калодзежаў вада ў норме па нітратах** старонка 3

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Каля 500 ўдзельнікаў збіраецца на фэст

ВІЛЕЙКА

На ўдзел у фэсце “Гонару Продкаў 2015” заяўлена больш за 30 рыцарскіх клубаў і 30 рамесных майстэрняў з Беларусі, Расіі, Украіны і Даніі. Агульная колькасць удзельнікаў наблізіцца да паўтысячы. Пройдзе рыцарскі фэст 4-5 ліпеня ў Вілейцы. Пра ўсё гэта расказаў удзельнік клуба гістарычнай рэканструкцыі “Паходня” з Вілейкі **Юры Палонскі**.

### Нарачанка стварыла лепшы ролік супраць наркаманіі

МЯДЗЕЛ

Падвялі вынікі другога рэспубліканскага конкурсу дзіцячых відэаролікаў па прафілактыцы наркаманіі “Разам супраць бяды”. Каля паўтысячы прац трэба было ацаніць журы. Пераможцам з ролікам “Зрабі свой выбар” стала 16-гадовая **Дыяна Дангель** з вёскі Нарач (Кабыльнік). Дыпломы і прызы ўручаць 19 чэрвеня, паведамляе МУС Беларусі.

### Раскідваюць прынады ад шаленства

Так ад 5 чэрвеня праводзяць вакцынацыю дзікіх жывёл ад хваробы, піша “Медыцынскі веснік”. Прынады з вакцынай будуць раскідваць па-за населеных пунктаў. Іх будуць скідваць з самалётаў з вышыні 150-200 метраў. На адзін квадратны кіламетр кідаюць 25 прынад – брыкет цёмнага колеру вагой да 30 грамаў. Гэта ядомы корм, у якім месціцца капсула з вакцынай.

**Аддзел інфармацыі.**



# Каб уратавацца ад пражэрлівых вусеняў, гаспадар высякае сад



Канюхі: Жанна пакутуе на алергію, таму што да насякомых дастаткова толькі дакрануцца, як пачынаецца сып.



Канюхі: Сяргей Мікалаевіч стаіць перад яблыняй, якую аб'ядаюць небяспечныя вусені.



Беразінскае: гаспадар Аляксандр шкадуе яблыні, але высякае пашкоджаныя дрэвы і паліц, каб выратаваць палову сада.

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

МАЛАДЗЕЧНА

**Нечуваная навала вусеняў напаткала жыхароў вёскі Канюхі і пасёлка Беразінскае Маладзечанскага раёна.**

Небяспечныя насякомыя апанавалі дрэвы і ядуць лісце. Мясцовыя жыхары прызнаюцца, што бачылі коканы яшчэ з восені, але не звярнулі тады на іх увагі.

Год таму, прызнаецца спадар **Аляксандр** з Беразінскага, такія ж вусені ўжо пашкодзілі яго яблыні. Думаў, што на вясну яблыні адродзяцца, але сёлета давялося іх спілаваць.

Жыхары занепакоеныя, але самі ніякіх спроб справіцца з навалай не прымаюць:

– А толку іх знізу пырскаць, калі на самых верхавінах аж бела ад іх коканаў, – скардзіцца жыхарка Канюхоў **Ларыса**.

Вусені ў асноўным шкодзяць толькі пладовым дрэвам, агарод яны не чапаюць.

Ад пачатку лета вяскоўцы трацяць грошы не толькі на хімікаты, але і на антыалергенныя прэпараты.

> **Вусені для чалавека небяспечныя, таму што выклікаюць алергію.**

**Жанна**, жыхарка Канюхоў, расказала, што алергія з'яўляецца ад таго, што вусень проста трапіць на агалены ўчастак скуры.

– Няўжо з-за гэтай гадасці давядзецца ўсё лета прахадзіць у скафандрах? – жаліцца жанчына.

Жыццё ў вёсцы Канюхі ноччу падобнае на трылер, дзеліцца мясцовы жыхар **Антон**:

– Калі ноччу ўсё навокал сціхае, можна пачуць, як вусені ядуць лісце. Хрум-хрум-хрум, разносіцца над вёскай.

### Уладзіслаў Чарноў: не спяшайцеся высякаць сады

Начальнік Маладзечанскай раінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Уладзіслаў Чарноў** лічыць, што ў навале вусеняў вінаватыя самі жыхары:

– У такой колькасці вусені не з'яўляюцца проста раптам. Вясной ці з восені прапусцілі жыхары гэты момант, не пачалі змагацца, а цяпер ужо кажуць пра катастрофу. Я магу вас запэўніць, катастрофы няма.

> **Па словах Уладзіслава Чарнова, у сераду ў Беразінскае і Канюхі накіравалі самалёты з хімікатамі, труціць вусеняў паспрабуюць з паветра.**

– Але і самі людзі могуць з імі змагацца. Вусені, наколькі вядома мне, ядуць лісце толькі ноччу, днём яны па ствалах дрэў спускаюцца на зямлю. Дык вось калі да дрэва прывязаць мех, можна назбіраць вусеняў у такую кішэню.

Што датычыцца алергіі, Уладзіслаў Віктаравіч параіў не дакранацца да касматых шкоднікаў.

– Канешне, ураджаю шкада і яго ўжо не вярнуць. Але хочацца сказаць мясцовым жыхарам, каб не спяшаліся высякаць дрэвы. Вусені знішчаюць толькі лісце, калі знікнуць вусені, дрэва адродзіцца.

**Наталля ТУР,**
**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Фота- і відэарэпартаж на гэту тэму глядзіце на сайце Rh.by**

● АФІЦЫЙНА

# Аляксей Нагіх: Ніколі так мала ў горадзе не будавалася дамоў

МАЛАДЗЕЧНА

**На пытанні пра тое, чаму ў Маладзечне амаль нічога не будуецца, калі ў 11-м мікрараёне пабудуюць школу і калі запрацуе бібліятэка, адказаў дырэктар упраўлення капітальнага будаўніцтва Маладзечна Аляксей Нагіх.**



Фота Наталлі ТУР.

Аляксей Нагіх падчас агляду бібліятэкі: "Калі ўсё атрымаецца, дах накрыем ужо восенню".

– Я не памятаю такога года, каб у горадзе амаль нічога не будавалася, – пачынае размову Аляксей Нагіх.

На сённяшні дзень будаўніцтва толькі двух дамоў у горадзе блізіцца да лагічнага завяршэння. Гэта дом у пятым мікрараёне, што за магазінам "Яшма". Яго плануюць здаць ужо ў жніўні. І 40-кватэрны дом па вуліцы Сухой.

– Трэці дом, які мы сёння дабудоўваем, гэта так званы дом "Рамонак", што ў Чысці. І гэта апошні дом, які будуецца жыллёва-будаўнічым кааператывам. У Маладзечне ўсе дамы будуюцца па дзяржзаказе.

**– А што будуюць ля Рагазаў і вуліцы Міру?**

– Там будзе жыллёвы комплекс з пяці дамоў на 52 кватэры кожны. Дамы будуць уяўляць секцыі з 4-х і 5-павярховак.

**– Як рухаецца справа з будаўніцтвам 16-павярховак па вуліцы Купалы?**

– Іх там не будзе. Па меншай меры, дакладна не сёлета. Для таго, каб правесці туды адны толькі інжынерныя сеткі, трэба каля 100 мільярдаў рублёў.

Затое цяпер праектуюцца 12-, 14- і 16-павярховыя дамы, якія, па словах Аляксея Нагіх, пабудуюць у 10 мікраёне.

У чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў стаяць 13 000 маладзечанцаў.

Што датычыцца пытання, калі ў 11 мікраёне пабудуюць школу, Аляксей Нагіх патлумачыў, што цяпер вядзецца яе праектаванне.

Такі праект вымагае шмат грошай. Таму і чакаецца, што фінансаваць яго будуць ужо сродкамі рэспубліканскага бюджэту.

### У бібліятэцы дах з'явіцца восенню

На рамонт даху Цэнтральнай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча з гарадскога бюджэту вылучана чатыры мільярды рублёў. Рамантуе дах прадпрыемства ПМК-212.

Насуперак таму, што планавалася завозіць бэлькі з расійскага горада Ніжні Тагіл, металічныя канструкцыі вырабляе Маладзечанскі завод металічных вырабаў.

**Дах плануюць накрыць ужо ў верасні, а калі завершыцца ўнутраны рамонт, будзе залежаць ад фінансавання.**

### Два гандлёвыя аб'екты з'явяцца да канца года

– Дазвол на будаўніцтва атрымалі два прадпрыемствы, – расказала начальніца аддзела архітэктуры і будаўніцтва Маладзечанскага райвыканкама **Святлана Хрусталёва.**

Гэта замежныя таварыствы з абмежаванай адказнасцю "ХРпраект" і "SAMEXпраект". Першае прадпрыемства будзе будаваць гандлёвы аб'ект па вуліцы Будаўнікоў, што каля Дома быту, другое – па вуліцы Гарадоцкай на скрыжаванні з Вялікім Гасцінцам.

– Якія па плошчы будуць гандлёвыя аб'екты, я вам сказаць не магу, таму што заказчык не прадаставіў дакументы на экспертызу ў поўным аб'ёме, – адказала Святлана Хрусталёва.

По тэрмінах завяршыць будаўніцтва прадпрыемствы павінны да 31 снежня 2015 года. Але пакуль яшчэ будаўнічыя работы не пачаліся.

**Наталля ТУР.**

● БУДАЎНІЦТВА

## Папярэдне да жніўня "Вялес-Міт" плануе падрыхтаваць дакументы на экаэкспертызу

МАЛАДЗЕЧНА

**1 чэрвеня Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ "Аб дзейнасці таварыства з абмежаванай адказнасцю "Вялес-Міт".**

Паводле яго свінакомплексы ў Маладзечанскім раёне пабудуюць каля Соўлава і каля Палачанаў. Першапачаткова планавалася, што адзін з іх будзе ў Мойсічах.

Сітуацыю пракаментаваў юрыст, які абараняў інтарэсы грамадскага аб'яднання "Экадом", **Сяргей Магонаў**:

– Што тычыцца "Вялес-Міта", пакуль не было ні грамадскай, ні дзяржаўнай экалагічных экспертыз. У ліпені ад 21 мая дырэктар ТАА "Вялес-Міт" адзначыў, што цяпер прадпрыемства "праводзіць працэдуру выбару генеральнага праекціроўшчыка для распрацоўкі дакументацыі, неабходнай для праходжання дзяржбудэкспертызы і дзяржаўнай экалагічнай экспертызы. Плануемы тэрмін прадстаўлення праектнай дакументацыі на грамадскую экалагічную экспертызу – жнівень 2015 года".

Эксперт адзначае, што цяпер невядома, ці будуць унесеныя змены ў праект па будаўніцтве свінакомплексу каля Соўлава.

Наконт свінакомплексу, які плануюць пабудаваць у Палачанах, грамадскае аб'яднанне "Экадом" будзе чакаць праекта па ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе і грамадскага абмеркавання.

**Павінна прайсці грамадская экалагічная экспертыза.**

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Наталлі ТУР.

● ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

## Віталь Казяк: мая раніца – гэта планшэт, кава і навіны "Рэгіянальнай газеты"

**Пра "Рэгіянальную газету" расказвае футбольны трэнер ДЮСШ №4 Віталь Казяк.**

"Рэгіянальную газету" я пачаў чытаць гадоў пяць таму. Тады, калі ў ёй працаваў **Сяргей Зянько**. Вельмі прыемна было чытаць яго прафесійныя, граматныя артыкулы пра футбол. Тады газету купляў кожную пятніцу.

Вядома, прачытаўшы спартыўную старонку, звяртаеш увагу і на іншыя тэмы.

"Рэгіянальная газета" піша пра штодзённыя праблемы, клопаты. Не абмінае ўвагай ні адну сферу жыцця рэгіёна.

Праўда, цяпер папяровую версію газеты амаль не купляю. Затое раніцай уключаю планшэт, заварваю каву і чытаю навіны "Рэгіянальнай газеты" ў інтэрнэце. І зноў, як і пяць год таму, пачынаю чытаць электронную версію газеты з раздзелу "Спорт".

Канешне, у першую чаргу шукаю інфармацыю пра свой любімы від спорту – пра футбол. Але вельмі добра, што "РГ" не абмінае ўвагай і іншыя. Заўсёды цікава прачытаць і пра хакей, і пра валейбол.

Трэба быць у курсе падзей. А з "Рэгіянальнай газетай" няма нічога прасцей быць заўсёды ў тэме.

**Наталля ТУР.**

● ПАДАТКОВАЯ ІНСПЕКЦЫЯ

## Тых, хто не дае чэкі, чакаюць штрафы

МАЛАДЗЕЧНА

Інспекцыя па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне паведамляе, што цяпер праводзяцца татальныя кантрольныя мерапрыемствы па адпаведнасці прыёму грошай і выдачы пакупніку чэкаў.

Гаспадарам суб'ектаў гаспадарання нагадваем: выконваць заканадаўства абавязкова! Выдавайце чэкі, якія пацвярджаюць кожную пакупку.

Для парушальнікаў парадку прыёму грошай прадугледжаны штраф ад 20 да 50 базавых велічынь (ад 3,6 да 9 мільёнаў рублёў).

Для парушальнікаў парадку карыстання касамі, таксометрамі ці тэрміналамі прадугледжаныя штрафы. Для прадпрымальнікаў да 100 базавых велічынь (18 мільёнаў рублёў), а для юрыдычных асоб – да 200 (36 мільёнаў рублёў).

Пакупнікі! Патрабуйце чэкі пры пакупцы любога тавару!

**Паводле паведамлення інспекцыі МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

ЭКАЛОГІЯ

# Толькі ў чвэрці з правераных калодзежаў вада ў норме па нітратах

ВІЛЕЙКА

**Такія вынікі прынеслі даследаванні, што праводзяць Вілейскі рэгіянальны інфармацыйны цэнтр па пытаннях якасці вады і школы раёна.**

Амаль паўтара года гэты цэнтр працуе ў сярэдняй школе №3 горада.

– Для інфармавання людзей ён патрэбны. Неабходна, каб чалавек ведаў, якую ваду п'е. А на аснове гэтай інфармацыі мог нешта зрабіць, – расказвае кіраўнік цэнтра настаўніца геаграфіі і біялогіі школы **Людміла Анасовіч**. – Бо толькі тады, калі захварэем, узнікаюць пытанні: "Чаму, адкуль узялося?".

Тэставанне на ўтрыманне нітратаў вады з калодзежаў, калонак і свідравін у цэнтры праводзяць з дапамогай адмысловых тэст-палосак. Таксама раздаюць гэтыя палоскі ахвотным правярыць ваду.

– Адразу пасля адкрыцця актыўнасць была высокая, людзей звярталася шмат, – расказвае Людміла Анасовіч. – Летась па вясне больш стала звяртацца людзей, калі пачалі выязджаць на лецішчы. Прыязджалі нават летам у вёску, дзе адпачываю. Звяртаюцца ў цэнтр людзі і цяпер. Многія даведаліся пра яго праз інтэрнэт-партал watercontrol.by, куды заносіцца інфармацыя пра вынікі даследаванняў.



Людміла Анасовіч дэманструе міні-лабараторыю па праверцы вады.

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

## У большасці калодзежаў – павышанае ўтрыманне нітратаў

Зараз вучні школы разам з настаўніцай у асноўным кантралююць па 10 калодзежаў і калонак. Размешчаныя яны ў Вілейцы і бліжэйшых да горада вёсках. Даследаванні таксама праводзяць вясковыя школы. І вось якія вынікі прынесла тэставанне больш за 200 калодзежаў на Вілейшчыне:

– У 55% даследаваных калодзежаў гранічна дапушчальная канцэнтрацыя ўтрымання нітратаў у вадзе перавышаная больш чым у два разы, – прыводзіць статыстыку **Людміла Анасовіч**. – Калодзежаў, дзе ўтрыманне нітратаў у межах нормы, да 45 міліграмаў на літр, – каля чвэрці. Перавышэнне ў пяць разоў і больш зафіксаванае ў 19% калодзежаў.

Рэагуюць людзі на вынікі даследаванняў па-рознаму:

**– У некаторых рэакцыя такая: "Пілі мы такую ваду да таго шмат год – і нічога не здарылася". Але многія прымаюць да ўвагі.**

Па інфармацыі вясковых школ, людзі чысцяць калодзежы, убіраюць крыніцы забруджвання. А тыя, хто не ў сілах штосьці зрабіць, прымаюць іншыя захады: прымяняюць фільтры.

Напрыклад, з Куранца падавалі інфармацыю, што людзі правялі ачыстку – і сітуацыя змянілася да лепшага. Бывае, што людзі правяраюць ваду ў сваім калодзежы і ў суседа. Калі там вада лепшая, то для піцця і прыгатавання ежы выкарыстоўваюць ваду з суседскага калодзежа.

**– А ў сябе ваду ці правяралі?** – пытаюся ў Людмілы.

– Так. У вёсцы ў мамы правярала. Было павышанае ўтрыманне нітратаў. Сталі выкарыстоўваць фільтр-збан. І пасля фільтра прыкладна ў два разы вада ачышчаецца, утрыманне нітратаў становіцца ў межах нормы. Даюць такія рэкамендацыі: калі яна ўтрымлівае да 250 міліграмаў нітратаў на літр, то два разы рэкамендуюць прапусціць праз фільтр. А калі яшчэ больш, то тады карыстацца для піцця і прыгатавання ежы вадой у бутэльках ці ў суседзяў браць, калі ў іх чыстая.

## Кантралююць стан вады ў Віліі

У цэнтр прыходзяць не толькі за тэст-палоскамі. Людзі пытаюцца, што можна зрабіць, калі забруджаная вада, як правільна пабудаваць калодзеж. Адказваюць, дзеляцца літаратурай.

Апроч даследавання вады у калодзежах, дзеці вядуць назіранне за станам вады ў Віліі. Гэта ўжо робяць з дапамогай міні-лабараторыі, якая ёсць у цэнтры.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Калі падчас даследаванняў выкананыя патрабаванні інструкцыі, то тэст-палоскі дазваляюць дастаткова правільна паказаць наяўнасць забруджвання і прыблізна ацаніць яго канцэнтрацыю.
Калі тэставанне паказала павышанае ўтрыманне нітратаў, ёсць сэнс звярнуцца ў мясцовы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі для правядзення больш грунтоўнага аналізу.

**Паводле экалагічнага грамадскага аб'яднання "ЭНДО".**

### Парады ад Людмілы Анасовіч для правільнага калодзежа

- ✓ У раёне метраў 20-ці не павінна быць ніякіх крыніц забруджвання: хлява, ямы для каналізацыі, агарода. Уладкуйце прыбіральні і месцы захоўвання гною так, каб выключыць пранікненне забруджвальных рэчываў у грунтавыя воды.
- ✓ Не дапускайце, каб у калодзеж траплялі смецце.
- ✓ На прысядзібным участку выкарыстоўвайце мінімальную колькасць угнаенняў і адмоўцеся ад пестыцыдаў.
- ✓ Калі калодзеж неглыбокі, рэкамендуецца яго паглыбіць.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**51** арганізацыя ў нашым рэгіёне мае пратэрмінаваную запазычанасць па зарплаце

На 1 чэрвеня – 51
На 1 лютага было 46.
На 1 студзеня было 2.

По краіне адпаведна **444**, **277** і **20** арганізацый мелі запазычанасць па заробку.



Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

Паводле Нацстат.

| Курсы валют НБ РБ | 4.06 руб. | 11.06 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 14 912,00 | **15 488,00** |
| Еўра | 16 324,00 | **17 525,00** |
| Злоты | 3 962,01 | **4 194,28** |
| Расійскі рубель | 279,12 | **277,41** |
| Грыўня | 705,89 | **730,39** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | **10.06** |
| Еўра | 14850/15050 | **17350/17700** |
| Долар ЗША | 16320/16800 | **15250/15650** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 3.06 | 10.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139 900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53800 | **55 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 25800 | **27 800** |
| Свініна (вырэзка), 1 кг | 75000 | **80 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 36900 | **39 800** |
| Селядзец, 1 кг | 42800 | **45 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 98000 | **108 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **11 000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12900 | **12 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 18000 | **18 000** |
| Маянэз, 200 г | 4900 | **4 900** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **9 800** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35 000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12 900** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 9900 | **10 000** |
| Капуста, 1 кг (свежая) | 11900 | **9 500** |
| Морква, 1 кг | 14900 | **16 500** |
| Буракі, 1 кг (свежыя) | 16900 | **15 000** |
| Радыска, 1 кг | 12500 | **13 000** |
| Лімоны, 1 кг | 46900 | **24 000** |
| Апельсіны, 1 кг | 17900 | **21 500** |
| Мандарыны, 1 кг | 29500 | **27 000** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 35000 | **35 000** |
| Ківі, 1 кг | 24900 | **15 000** |
| Нектарын, 1 кг | 39000 | **35 000** |
| Абрыкос, 1 кг | 39900 | **45 000** |
| Клубніцы, 1 кг | 55000 | **50 000** |
| Чарэшні, 1 кг | 60000 | **43 000** |
| Памідоры, 1 кг | 24900 | **19 000** |
| Агуркі, 1 кг | 11900 | **7 000** |
| Перац, 1 кг | 59900 | **47 000** |
| Вінаград, 1 кг | 44900 | **44 900** |
| Бананы, 1 кг | 19900 | **19 500** |
| Яблыкі, 1 кг | 13900 | **15 900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29900 | **39 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15 000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **50 000** |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 14000 | **13 000** |
| Сала, 1 кг | 65000 | **90 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20 000** |
| Мёд, 0,5 л | - | **55 000** |




Кліенты так і не атрымалі заказаныя помнікі: махлярка прысабечвала грошы, а заказы не выконвала.

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

# Ні грошай, ні помнікаў

## Дырэктарка прадпрыемства па аказанні рытуальных паслуг падманула людзей на 360 мільёнаў рублёў

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта завяршыў расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да 45-гадовай мясцовай жыхаркі ("РГ" пісала пра пачатак следства).**

Дырэктарка прадпрыемства па аказанні рытуальных паслуг з карыслівых меркаванняў завалодала грашовымі сродкамі 50 грамадзян на суму каля 360 мільёнаў рублёў. Адбылося гэта ў 2012 - 2014 гадах.

Абвінавачаная ўсведамляла вельмі неспрыяльны фінансавы стан фірмы і не мела намераў выконваць ускладзеныя дагаворныя абавязацельствы. Тым не менш здзейсняла здзелкі па вырабе, устаноўцы помнікаў і розных камплектуючых з фізічнымі асобамі, расказала нашаму выданню афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог.**

Папярэдняй аплатай жанчына распараджалася па сваім меркаванні, а заказаную прадукцыю, згодна з заключанымі дагаворамі, кліенты не атрымлівалі.

Акрамя таго, яна складала падробленыя дакументы і выплачвала заработную плату асобе, якая фактычна не працавала. Налічаныя грошы прысабечвала.

Падчас папярэдняга расследавання жанчына чыстасардэчна раскаялася ва ўчыненым злачынстве і робіць захады да пакрыцця нанесенай шкоды.

Дзеянні абвінавачанай следствам кваліфікаваныя як махлярства, здзейсненае ў асабліва буйным памеры, і крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі.

Крымінальную справу перадалі ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Аддзел інфармацыі.**

ЗДАРЭННІ

### У Ракаве два хлопцы скралі матацыкл

ВАЛОЖЫН

2 чэрвеня з двара ў мястэчку Ракаў невядомыя скралі матацыкл "Ямаха" 2009 года выпуску, які каштуе 88 мільёнаў рублёў.

– Матацыкл належаў сямейнай пары, што на лета прыехала пагасцяваць на дачы ў знаёмых, – расказала "Рэгіянальнай газеце" старшая следчая Валожынскага РАСК **Юлія Селятыцкая**. – Матацыкл стаяў у двары цягам двух месяцаў, а ў ноч на 2 чэрвеня яго скралі.

5 чэрвеня злачынства ўдалося раскрыць. Аказалася, што скралі матацыкл два мясцовыя жыхары, 19- і 21-гадовыя хлопцы.

Як расказвалі следчым пасля, яны скралі матацыкл, каб прадаць яго на запчасткі. Пра такую магчымасць даведаліся з інтэрнэту.

Матацыкл вярнулі гаспадарам, а вось хлопцам давядзецца адказваць за свой учынак.

– Паколькі крадзеж быў у буйным памеры, то цяпер ідзе гаворка пра заключэнне маладзёнаў пад варту, – падсумавала Юлія Селятыцкая.

### Валожынец угнаў аўтамабіль, каб з'ездзіць да бабулі

ВАЛОЖЫН

Здарэнне адбылося 15 мая ў Валожыне. Супрацоўнікі ДАІ затрымалі за рулём аўтамабіля "Кіа-Сарэнта" нецвярозага вадзіцеля.

Падчас высвятлення абставін, аказалася, што аўтамабіль угнаны.

Яго ў свайго знаёмага скраў 26-гадовы кіроўца.

Як потым ён расказваў следчым, хацеў з'ездзіць праведаць бабулю, што жыве ў 15 кіламетрах ад Валожына, у Жамойдзі. Ключ ад машыны скраў з кватэры знаёмага.

– У скрадзеную машыну ўзяў яшчэ піва, ад чаго ехаць амаль не мог. Машына з'язджала ў кювет, зноў выязджала на дарогу, пакуль яе не спынілі супрацоўнікі ДАІ, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" следчы Валожынскага РАСК **Ілля Глінскі**.

Хлопцу пагражае да пяці год зняволення, далей ў Следчым камітэце.

**Наталля ТУР.**

СЛУЖБА 101

### Цяплілі лазню – з ёй згарэлі і два хлявы

ВІЛЕЙКА

Пажар адбыўся 1 чэрвеня ў вёсцы Залессе Хаценчыцкага сельсавета. Пра яго паведамілі каля 9 гадзін вечара.

Гарэлі лазня і два хлявы, якія знаходзіліся пад адным дахам.

Каля сямі гадзін вечара гаспадар распаліў лазню і заняўся сваімі справамі. Праз дзве гадзіны з дома ўбачыў загаранне. Выбег на двор, крыкнуў суседзям, каб выклікалі выратавальнікаў. А сам спрабаваў тушыць, далучыліся і суседзі. Але полымя збіць не ўдалося.

Па прыбыцці выратавальнікаў усе тры пабудовы гарэлі адкрытым полымем. У выніку знішчаныя перакрыцці, дах, абвугленыя сцены.

Ачаг загарання быў на паддашшы над лазняй, расказаў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзмітры Кляшняк.** Папярэдняя прычыну пажару – парушэнне правілаў устройства і эксплуатацыя пячнога абсталявання.

**Аддзел інфармацыі.**

ЗДАРЭННІ

### Маладая кіроўца не справілася з кіраваннем – пацярпела дзяўчынка

МЯДЗЕЛ

Дарожна-транспартнае здарэнне адбылося ўдзень 7 чэрвеня на 135-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Маладзечна-Нарач.

28-гадовая мінчанка на аўтамабілі "Нісан-Патроль" рухалася ў напрамку Мядзела. Не справілася з кіраваннем аўтамабіля, у выніку чаго той перакуліўся на праезны частцы.

Пяцігадовую дзяўчынку з закрытай чэрапна-мазгавой траўмай і страсеннем мазгоў шпіталізавалі ў бальніцу.

Як стала вядома, дзіцячае крэсла ў салоне аўтамабіля адсутнічала, дзяўчынка знаходзілася на каленях у бацькі.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

### Прызначаная дата разбіральніцтва па справе ДТЗ у Вілейцы, у якім загінуў супрацоўнік міліцыі

ВІЛЕЙКА

У суд Вілейскага раёна паступіла крымінальная справа па абвінавачванні 22-гадовага грамадзяніна па факце дарожна-транспартнага здарэння.

Яно адбылося 3 лютага гэтага года каля палове дзявятай вечара на скрыжаванні вуліц Піянерскай і 1 Мая ў Вілейцы. У выніку сутыкнення аўтамабіля "Кіа-Шума" і мікрааўтобуса "Газель" загінуў малады супрацоўнік Вілейскага райаддзела ўнутраных спраў.

На 17 чэрвеня прызначанае судовае разбіральніцтва па справе, паведаміла вядучы спецыяліст суда Вілейскага раёна **Таццяна Ткачова.**

### Юнак пасварыўся з дзяўчынай і разбіў шкло на прыпынку

МЯДЗЕЛ

Пасля праверкі 2 чэрвеня ўзбудзілі крымінальную справу за хуліганства ў дачыненні да 18-гадовага жыхара Мядзела. Яшчэ ў маі ён разбіў шкло павільёна на прыпынку грамадскага транспарту каля Мядзельскай сярэдняй школы №1.

У той вечар чатыры сябры збіраліся ехаць на Нарач. Два з іх каля 22 гадзін чакалі астатніх на прыпынку. Тут мядзелец разбіў шкло нагой.

Гэта ўбачыў відавочца, які праязджаў на машыне, і паведаміў у міліцыю. Юнака хутка затрымалі, расказаў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта Беларусі **Міхаіл Сакалдынскі.** Потым мядзелец тлумачыў, што быў расстроены з-за спрэчкі з дзяўчынай.

Прычыніў ён шкоду Мядзельскай ЖКГ на 1,5 мільёна рублёў. Шкоду кампенсаваў.

**Аддзел інфармацыі.**

ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

## Будзьце пільныя, калі збіраецеся адпачываць

МАЛАДЗЕЧНА

Паважаныя грамадзяне! Просім вас трымацца мер бяспекі ў месцах масавага адпачынку. Калі будзеце ехаць да гэтых месцаў чыгункай, не пераходзьце пуці ва неўстаноўленых месцах, а таксама перад цягніком.

На месцах адпачынку сачыце за сваімі рэчамі. Каштоўныя трымайце пры сабе.

Не піце алкаголь і не купайцеся п'янымі. Не пакідайце дарагія рэчы незнаёмым людзям.

Калі збіраецеся на пляж, пакідайце ўпрыгожванні дома. Ды і мабільны тэлефон, фотаапарат, іншыя каштоўныя рэчы больш бяспечна пакінуць дома. З сабой бярыце толькі самае неабходнае.

**Таццяна СУБАЧ,**
**старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце.**

ГІСТОРЫЯ

# Новая Гута, вайна і бык Васька

*Заканчэнне. Пачатак у № 23.*

ВІЛЕЙКА

Жыхары Новай Гуты сабралі сродкі, каб адкрыць помнік па загінулых у час вайны земляках.

Ініцыятыва праходзіць пры актыўным удзеле і падтрымцы Хаценчыцкага сельсавета, Беларускага саюза суворaўцаў і кадэтаў, грамадскіх актывістаў з Маладзечна і Вілейкі.

**Помнік у Новай Гуце плануюць адкрыць 13 чэрвеня (на Дзявятнік).**

Каб расказаць пра лёс вёскі, я звярнуўся да тых вяскоўцаў, якія памятаюць, як Новая Гута перажыла Вялікую Айчынную вайну і якой была да яе пачатку.

## Сход вырашыў адправіць падаткі немцам

Наступіла вясна, хтосьці данёс у ільянскую камендатуру, што навагуценцы не плацяць немцам падаткі, таму што дапамагаюць партызанам, якія тут і жывуць. Немцы не прымусілі сябе чакаць і знянацку наляцелі на вёску, каб захапіць партызан і тых, хто ім дапамагае. Але партызан папярэдзілі пра акцыю, і яны сышлі ў лес. Не знайшоўшы чужынцаў і іх прыхільнікаў, немцы ў апошні раз папярэдзілі насельніцтва пра наступствы непадпарадкавання нямецкім уладам. Падаткі павінны быць сабраныя, інакш кары не мінуць!

Вясковы сход вырашыў сабраць хоць якія падаткі ды адправіць немцам. Так і зрабілі, каб быць ад граху падалей. Партызаны па вёсцы больш не ездзілі, прыязджалі толькі па хлеб да ўдавы Вольгі.

## Расстрэлы "за здраду"

Напрыканцы красавіка 1943 года, сярод ночы, у хату **Елізаветы (Альбуты) Лапкоўскай** уварваліся невядомыя асобы. Вывелі яе і 17-гадовага сына **Уладзіміра** ў сад і расстралялі, пакінуўшы запіску "за здраду". За якую і каму, ніхто не ведае і сёння.

На наступную ноч гэтыя ці іншыя начныя бандзюганы забралі са сваёй хаты братоў Філіповічаў, **Пятра** і **Паўла**. Яны таксама зніклі без следу і невядома за што.

А праз некалькі дзён Новую Гуту акружылі карнікі. Акрамя шматлікіх аўтаматчыкаў, яны з добрым дзясяткам кулямётаў стаялі па ўсім перыметры вёскі. Усіх жыхароў, ад малога да старога, сагналі да тока **Альшэўскіх**. Сам ток быў ужо абкладзены пад самы верх саломай і абліты газай, чакаў свае ахвяры. Людзей абвінавачвалі ў непадпарадкаванні нямецкай уладзе і ў садзейнічанні партызанам.



Фота забяспечана Алесем РАТКЕВІЧАМ.

Баба Лёдзя, так называюць мясцовую жыхарку Новай Гуты, што на Вілейшчыне, Леакадзію Станіславаўну Мікуліч (Кулеш).

Тут уступіўся Міхаіл Гаўрылік, вясковы солтыс. Ён намагаўся запэўніць галоўнага эсэсаўца ў тым, што людзі тут не вінаватыя. Яны не маюць аніякай сувязі з партызанамі. У вёсцы днямі невядомыя ўжо і так дваіх чалавек забілі, і падаткі вяскоўцы плацяць спраўна. Гітлеравец штосьці задумаўся і ўсё-такі вырашыў праверыць словы солтыса. Ускочыўшы вярхом на каня, ён падаўся у Ілью. Праз пэўны час вярнуўся назад і даў каманду адмяніць акцыю расправы.

Як толькі гітлераўцы з'ехалі, вяскоўцы гуртам рушылі ў лес рыхтаваць сабе запаснае жытло, зямлянкі на "лісіных норах". І не памыліліся. Невядомыя ўначы забралі Міхаіла Гаўрыліка і адвялі на Навасёлкаўскія могілкі, на якіх і расстралялі. Толькі за што? Ён жа фактычна выратаваў людзей ад немінучай гібелі, а яго расстралялі.

Пасля месца солтыса заняў таксама свой вясковец. Вось гэты ўжо служыў верай і праўдай немцам. Прымаў удзел у спальванні сваёй жа роднай вёскі і нават сваёй хаты. Пасля вайны атрымаў дзесяць год зняволення за злачынствы, праяўленыя супраць мірнага насельніцтва. Нават супраць сваіх блізкіх і родных.

Хочацца асобна вылучыць гібель маленькіх дзетак, гадавалага **Толіка** і двухгадовую **Марыльку Масальскіх**, якія загінулі галоднай смерцю проста на руках іх старэйшай сястрычкі **Ванды**.

Трагічную старонку лёсу Новай Гуты і хочуць увекавечыць сённяшнія землякі.



Алесь **РАТКЕВІЧ**, Чысць.

СКУЛЬПТУРА

# Як забраць рэчы продкаў, што ваявалі ў арміі Андэрса

*Працяг. Пачатак у №№15, 22.*

**Рэчы многіх жаўнераў арміі Андэрса месцяцца ў Цэнтральным вайсковым архіве ў Варшаве. Нашчадкі могуць забраць памятныя рэчы, калі пацвердзяць сваяцтва.**

Маладзечанец **Віктар Голуб** падрыхтаваў спіс тых, хто паходзіў з нашага краю са спадзяваннем, што хтосьці з нашчадкаў захоча вярнуць дарагія сям'і рэчы.

Усяго ў спісе 1630 жаўнераў. З іх многія паходзяць з Беларусі, Украіны і Расіі.

У 2005 годзе англійскі ўрад перадаў асабістыя рэчы загінулых у Цэнтральны вайсковы архіў у Варшаве.

Архіў месціцца ў раёне Стары Рэмбратаў, па адрасе: ul. Czerwonych Beretów bl. 124, 00-910 WARSZAWA, Centralne Archiwum Wojskowe. Адказны па гэтай тэме – Ежы Сівінські. Там жа можна знайсці поўны спіс, паводле якога зрабіў выбарку Віктар Голуб – Lista nazwich żołnierzy i oficerow, ktorych depozyty sa przechowywane w CAW.

Пры звароце трэба мець даведку аб ступені сваяцтва з жаўнерам, якую заверыў натарыус. Даведку неабходна перакласці на польскую мову.

Многія з іх узнагароджаныя крыжом "За Монтэ Касіна", сустракаецца нават самая ганаровая польская ўзнагарода – ордэн Virtuti Militari. У спісе некатарых звесткаў, напрыклад, пра год нараджэння няма, могуць быць недакладнасці ў перадачы імя, прозвішча ці населенага пункта.

Спіс жаўнераў арміі Андэрса, чые рэчы сваякі могуць забраць у Цэнтральным вайсковым архіве ў Польшчы:

139. Рынкевіч Ёзаф, стралец, 2 узнагароды, Свір, в. Шчарбішкі.
140. Сайкоўскі (Зайкоўскі) Мікалай, 1914 г.н., 2 узнагароды, Браслаў
141. Саковіч Францішак, 1919 г.н., стралец, 1 узнагарода, Ашмяны, в. Цымуты.
142. Саўчыц Тэадор, 1910 г.н., сапёр, 1 узнагарода, Вілейка,
143. Сіханкевіч (Зіханкевіч) Аляксандр Іахімавіч, 1912 г.н., старшы стралец, 1 узнагарода, Паставы, в. Глінішчызна.
144. Сямашка Яразм Баляслававіч, 1913 г.н., стралец, Паставы, в. Рэчкаўшчызна.
145. Сяўрук Эдвард Станіслававіч, 1917 г.н., стралец, 1 узнагарода, Валожын, в. Навінкаўшчызна
146. Сівіцкі Зыгмунд Раймундавіч, 1911 г.н., капрал, 2 узнагароды, Вілейка,
147. Скайво Станіслаў, 1904 г.н., капрал, 1 узнагарода, Ашмяны, в. Пробоцішкі.
148. Скурновіч Ёзаф Вінцэнтавіч, 1903 г.н., стралец, Ашмяны, в. Доргішкі.
149. Смалонскі Пётр Віктаравіч, 1925 г.н., стралец, Маладзечна, в. Сычавічы.
150. Сарока Міхаіл Аляксандравіч, 1923 г.н., старшы стралец, Вілейка
151. Станкевіч Ёзаф, 1910 г.н., капрал, 1 узнагарода, Валожын,
152. Стасіловіч Вацлаў, 1919 г.н., стралец, 1 узнагарода, Валожын, в. Лытош (можа, Люташ)
153. Стэлмачонак Іван, 1917 г.н., артылерыст, 1 узнагарода, в. Слабодка.
154. Сцерыновіч Мечыслаў, 1906 г.н., сяржант, 1 узнагарода, Браслаў, в. Бялуцішкі.
155. Супрановіч Пётр, 1901 г.н., старшы стралец, 1 узнагарода, Вілейка, в. Рабунь.
156. Суровіч Францішак Іванавіч, 1908 г.н., стралец, 1 узнагарода, Ашмяны, в. Кавалі.

*Заканчэнне будзе.*

Падрыхтавала Зоя **ХРУЦКАЯ**.

КАЛЯНДАР

**12 чэрвеня.** 120 гадоў з дня нараджэння (1895) Леапольда Родзевіча, палітычнага і грамадскага дзеяча, драматурга, публіцыста, паэта. Нарадзіўся ў фальварку Кур'янаўшчына Вілейскага павета (цяпер Лагойскі раён). Скончыў гарадское вучылішча ў Вілейцы (1909). У 1914 годзе пераехаў у Вільню. Бясследна згінуў пасля 1938 года. Многія творы Леапольда Родзевіча, асабліва "Збянтэжаны Саўка", ставяцца тэатральнымі калектывамі Беларусі.

***

**105 гадоў** з дня нараджэння Данутэ Чурлёнітэ-Зубавене (1910-?), літоўскай пісьменніцы, перакладчыцы, дачкі кампазітара і мастака Мікалоюса Канстанцінаса Чурлёніса, ураджэнкі вёскі Пятроўшчына Маладзечанскага раёна.

***

**13 чэрвеня.** 1834 год. Нарадзіўся Канстанцін Вераніцын (в. Астраўляны Віцебскага пав.), літаратар, верагодны аўтар паэмы "Тарас на Парнасе".

***

**14 чэрвеня.** 115 гадоў з дня нараджэння Міхася Забэйды-Суміцкага (сапр. Забэйда) (1900 – 1981), выдатнага беларускага спевака. Імкнуўся выконваць усе творы ў арыгінале і на памяць, каб як найбольш прыблізіць твор да слухача і як найбольшы след пакінуць у яго душы. Папулярызаваў беларускую народную песню ў свеце.

***

**15 чэрвеня.** 75 гадоў назад у вёсцы Нікольцы Мядзельскага раёна нарадзіўся Адольф Варановіч (1940–2001), беларускі паэт, пісьменнік, член Саюза пісьменнікаў СССР, аўтар кніг "Высокі падмурак", "Агні хат", "Жывая душа".

***

**16 чэрвеня.** 60 гадоў назад (1955) у Нью-Ёрку памёр Васіль Рагуля, грамадска-культурны дзеяч, пасол польскага сейма, педагог, дзеяч эміграцыі ў Германіі, Бельгіі і ЗША. У 1898 годзе скончыў школу ў Маладэчне. Скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут. Удзельнік Першай сусветнай вайны. 20 чэрвеня 1941 арыштаваны савецкімі органамі дзяржбяспекі, уцёк з турмы. З лета 1944 – на эміграцыі.

***

**17 чэрвеня.** 125 гадоў з часу адкрыцця (1890) Мінскага гарадскога тэатра (з 1920 года ў яго памяшканні працуе Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я.Купалы).

***

**18 чэрвеня.** 1911 год. Нарадзіўся Аляксандр Шыдлоўскі (в. Мінкі, цяпер Смаргонскі р-н), культурны дзеяч, кампазітар.

Марыя **БЕРАСНЕВА**.

фестываль

# 15 гісторый 15 Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі “Маладзечна-2015”

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлетні год для фестывалю юбілейны. Хтосьці далучыўся да яго ў гэтым годзе, а хтосьці памятае ад пачатку. Акрамя артыстаў, падзеі фестывалю закранаюць і жыхароў горада, і ўсіх, для каго фестывальныя дні – гэта цяжкая работа. Мы паспрабавалі сабраць 15 гісторый людзей, лёс якіх так ці іначай звязаны з фестывалем “Мала93ечна”.**

## Гісторыя 1. Рамеснік: не бывае, каб кожны год адно і тое ж

Кіраўнік гурта “Чароўная лаза” маладзечанскага Палаца культуры **Генадзь Унукаў** з раніцы ў пятніцу ўжо на плошчы. Ён са сваімі вучаніцамі выстаўляе куфры, кошыкі, плеценыя з лазы абажуры.

І так, кажа Генадзь Унукаў, адбываецца ледзьве не з першага фестывалю. На пытанне, ці не надакучыла адно і тое ж штогод, Генадзь адказаў, што такога не бывае, каб кожны год адно і тое ж:

– Людзі ж розныя, атмасфера на кожным фестывалі свая. Таму заўсёды цікава, якую чарговую сустрэчу падорыць новы фестываль.

## Гісторыя 2. Супрацоўнік ДАІ: бываю на кожным фестывалі, але ні аднаго не бачыў

– Які фестываль, якое тут свята? – абураецца інспектар ДАІ **Сяргей Бартош**. – Калі ў горадзе свята, у нас 12-гадзінны рабочы дзень. ДАІ працуе ва ўзмоцненым рэжыме.

Сяргей прызнаецца, што ні разу не бачыў ні аднаго канцэрта ў горадзе.

– Ды і ні ў канцэртах шчасце. Галоўнае, каб ДТЗ не здараліся, а то вельмі не хочацца ў святочны дзень пратаколы складаць і здарэнні распісваць.

Яшчэ адна адметнасць фестывальных дзён для Сяргея Бартоша ў тым, што ён цягам гэтых трох дзён вельмі загарае.

Твар становіцца цямнейшым у разы тры за шыю. І скура на носе на трэці дзень аблазіць.

## Гісторыя 3. Начальнік Валожынскага аддзела ідэалогіі: сагрэла душу песня зямлячкі

На фестываль **Вікенці Адамовіч** прыязджае ўжо не першы год. Сёлета – у складзе Валожынскай дэлегацыі. З адметнасцяў гэтага года называе канцэрт “Мелодыі роднай зямлі”:

– У гэтым канцэрце гучала музыка маіх любімых калектываў – “Бяседы”, “Неруш”, “Свята”. Асабліва сагрэла душу тое, што канцэрт заканчваўся песняй на словы нашай зямлячкі Канстанцыі Буйло “Люблю наш край”.

Але на 100 працэнтаў фестывалем Вікенці Мікалаевіч усё ж не задаволены:

– Мы гадзіну не можам знайсці патрэбныя месцы. Інфраструктура не да канца прадуманая.

## Гісторыя 4. Фатограф: на адзін дзень бяру з сабой флэшкі на 64 гігабайты

**Яўген Стэльмах** фатаграфуе фестываль ад 2001 года:

– Першая зорка фестывалю, якую я фатаграфаваў, быў **Дзмітры Качароўскі**. Ён у той год стаў уладальнікам Гран-пры. Той фотаздымак, дзе ён разгублена закрывае твар рукамі, надрукавалі ў “Рэгіянальнай газеце”.

Ужо амаль 15 гадоў Яўген нязменна глядзіць на падзеі фестывалю праз аб’ектыў фотаапарата:

– Для мяне фестываль – перш за ўсё работа. Мая задача прыгожа паказаць астатнім тое, што ўдалося пабачыць мне. На адзін фестывальны дзень я бяру з сабой дзве флэшкі на 32 гігабайты кожная. І за дзень яны запаўняюцца абедзве.

## Гісторыя 5. Начальнік Маладзечанскага аддзела ідэалогіі: на фестываль прыходжу слухаць любімыя песні

Начальнік аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Рамановіч** прызнаўся, што фестываль для яго – гэта не адпачынак, а праца, якая патрабуе многа сіл і часу:

– Затое, калі пачынаецца канцэрт, магу не стрымацца і пачаць падпяваць музыкам. Люблю песні “Песняроў” і “Сяброў”, але самая любімая “Гуляць дык гуляць”.

## Гісторыя 6. Саладуха: памятаю фестываль, калі яго называлі беларускім Сан-Рэма

**Аляксандр Саладуха** на фестывалі заўсёды чаканы і жаданы госць. Запрашаюць яго амаль штогод, але ўспамінае ён першыя фестывалі:

– Маладзечанскі фестываль памятаю яшчэ ад самага пачатку, год 1993-1994, калі ён праводзіўся на гарадскім стадыёне. Тады здавалася, што маладзечанскі фестываль будзе аналагам італьянскага Сан-Рэма. Была такая незабыўная атмасфера. Чаго цяпер не хапае фестывалю, не ведаю, але ў мяне адчуванне, што хутка нешта зменіцца і фестываль зажыве на поўную моц.

## Гісторыя 7. Дзмітры Качароўскі: фестываль жыве, пакуль праходзіць у Маладзечне

Уладальнік Гран-пры фестывалю 2001 года спявак Дзмітры Качароўскі тады ў падарунак атрымаў аўтамабіль “Жыгулі” шостай мадэлі.

– Пэўны час ездзіў на ім, потым прадаў.

А яшчэ Дзмітры не згодны з тым, што маладзечанскі фестываль – гэта толькі размінка перад “Славянскім базарам”.

– Конкурс маладых выканаўцаў ніяк нельга назваць размінкай перад іншымі конкурсамі. Выступленне з аркестрам вымагае быць сабраным і ставіцца да конкурсу вельмі сур’ёзна. Пераможца сёлетняга конкурсу, хоць я і быў у журы, стала для мяне поўным сюрпрызам.

Як пастаяннага ўдзельніка, Дзмітрыя вельмі радуе, што фестываль стаў праходзіць у сучасным, цалкам падрыхтаваным амфітэатры.

– І я перакананы, што фестываль жыве толькі таму, што ён праходзіць у Маладзечне. Я не ведаю, як гэта патлумачыць, але я ўпэўнены, што перанясі яго ў іншы горад і фестываль сыдзе на не. Маладзечна ў гэтым сэнсе асаблівы горад.

## Гісторыя 8. Мікола Шабовіч: паэты не павінны быць на другім месцы:

– Здаецца, я не прапусціў ніводнага Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі. Хочацца слухаць іншых паэтаў і чытаць вершы самому. Сёлета я паламаў стэрэатып паэта, які піша пра каханне – прачытаў верш на сацыяльна-грамадзянскую тэму.

На жаль, у межах фестывалю недастатковая ўвага надаецца менавіта паэзіі. У першыя гады, як і было задумана, абодва кірункі, і песня, і паэзія, былі нароўні ў цэнтры ўвагі. А сёння ў паэтычнай гасцёўні амаль нікога няма. Больш увагі аддаюць эстрадзе. Адчуваем, што не мы галоўныя ўдзельнікі. Па гэтай прычыне некаторыя паэты проста адмовіліся прыехаць і ўдзельнічаць у фестывалі, таму што лічаць стаўленне да сябе абразлівым.

Так думаю не толькі я, але і іншыя паэты і мае сябры – на вялікай сцэне, перад вялікай аўдыторыяй павінна быць месца і для паэтаў.

Ды і наогул, Нацыянальны фестываль павінны быць на першым месцы сярод падобных мерапрыемстваў як захавальнік беларускай культуры і традыцый.

## Гісторыя 9. Мама чытала вершы, дзеці з задавальненнем гулялі

Паэтэса **Аксана Ярашонак** прэзентавала новы зборнік на паэтычнай гасцёўні:

– Я заўсёды атрымліваю задавальненне ад такіх мерапрыемстваў, як паэтычная гасцёўня. Гэта натхненне, сустрэчы, эмоцыі. А пакуль я выступала, муж з дочкамі бавіў час на дзіцячай гульнявой пляцоўцы. Яны проста ў захапленні ад яе!

## Гісторыя 10. Уладальніца Гран-пры конкурсу маладых выканаўцаў Таццяна Валахановіч:

– Выступаць на такой сцэне з маэстра, спяваць пад акампанемент аркестра – гэта надзвычай сур’ёзна, і я неверагодна шчаслівая перамозе. Хаця яна стала нечаканасцю і для мяне, і для блізкіх, якія перажывалі і маліліся за мяне. Гран-пры стаў адпраўным пунктам, і цяпер толькі наперад.

## Гісторыя 11. Канкурсант: аб’ектыўнасць – у двукоссі

Андрэй Воранаў удзельнічаў у конкурсе маладых выканаўцаў, але не ўвайшоў у лік пераможцаў

– Фестываль запомніўся аб’ектыўнасцю ў двукоссі. Графік рэпетыцый быў вельмі нязручны, часу адпачыць проста не было. Адзіны плюс – што выступіў на сцэне разам з аркестрам Фінберга. Колькі часу патрачана на рэпетыцыі і нікому непатрэбныя інтэрв’ю, проста шкада. Для кагосьці, можа, фестываль карысны.

Андрэй – выпускнік Маладзечанскага музычнага каледжа і Акадэміі музыкі.

## Гісторыя 12. Канкурсантка: я стала мацнейшай

Прадстаўніца Старых Дарог **Кацярына Лазук** удзельнічала ў конкурсе другі раз, але перамагчы таксама не змагла:

– Запомніўся конкурс тым, што мне нічога не далі (смяецца). Наконт пераможных месцаў, мяркую, вельмі спрэчны момант. Але рабіць высновы не мне. Я прыклала ўсе намаганні, але засталася незаўважанай. Хаця сваім выступленнем цалкам задаволеная. Конкурс зрабіў мяне мацнейшай. Вельмі спадабалася дружная і вясёлая атмасфера за кулісамі сярод удзельнікаў, хаця мы і канкурэнты.

## Гісторыя 13. Арганізатар пляцоўкі “Арт-старт”: вельмі складана, але радуе жывы рок

Для тых, хто ўдзельнічаў у арганізацыі свята, фестываль – гэта найперш складаная работа, гаворыць арганізатар моладзевай пляцоўкі ў межах фестывалю “Арт-старт”, загадчыца аддзела па рабоце з дзецьмі і моладдзю Маладзечанскага Палаца культуры **Таццяна Тарасава**:

– Сабраць калектывы на адной пляцоўцы вельмі складана. На жаль, і такой колькасці маладзевых груп і выканаўцаў такога ўзроўню, як год 13 таму, цяпер няма. Хаця мы імкнуліся сабраць выканаўцаў і з галіны рок-музыкі, і рэпа, і брэйк-данса. Чамусьці моладзь цяпер менш цікавіцца творчасцю. Адзінае, за што я абсалютна спакойная, – гэта рок-музыка. Вось тут нашы выканаўцы вельмі выраслі, у тым ліку ў Маладзечне. Прычым гэта прыемны вуху якасны і жывы рок.

## Гісторыя 14. Замест фестывалю правяла час з блізкімі

Знайсці чалавека з Маладзечна, якога фестываль не зачапіў, аказалася задачай няпростай. Вядучая рубрыкі “РГ” “у Дарозе” **Воля Трубач** на ўрачыстасць не трапіла:

– У мінулым годзе я ў якасці рамесніцы ўдзельнічала ў кірмашы з воўнай, які арганізоўваўся падчас фестывалю. У гэтым жа годзе фестываль я абмінула, бо знаходзілася ў доўгачаканым тыднёвым велападарожжы па Нарачы – была ў Дарозе! З’явіўся час пабачыцца са сваякамі і пагушкаць пляменнікаў. Аднак нават дыстанцыйна фестываль пасылаў мне прывітанне: прапановай з запрашэннем на канцэрт народнай музыкі.

## Гісторыя 15. Каментатар: хочацца ўбачыць сапраўднае свята беларускасці

І напрыканцы – гісторыя каментатара сайта rh.by **Аляксандра**:

– Купіў білеты на адкрыццё фестывалю і павёў сваіх знаёмых туды, зацікавіла назва канцэрта “Беларусь незалежная у песнях і вершах”. Але ўсе надзеі і чаканні разбіліся аб першую ж рускамоўную песню. Увогуле падабраныя песні, нават і беларускамоўныя, ніяк не перакліkaліся з назвай канцэрта. На мой погляд, фестываль ператвараецца ў такі звычайны папсовы міжсабойчык, засталося запрасіць на наступны год якіх-небудзь сярэдніх рускіх зорак, каб даражэй прадаць білеты. У 2011 годзе фестываль нібыта адрадзіўся, я сам наведаў выдатны канцэрт “Маладзечна. РОК”, схадзіў на начны джазавы канцэрт аркестра Фінберга, штосьці жывое было ў гэтым. Цяпер жа не фестываль, а штогадовыя “Дажынкі”. Няўжо нельга арганізаваць канцэрты беларускіх песень па некалькіх напрамках музыкі (рок, аўтарская песня, эстрадная песня і г.д.), увесці нейкія прэміі сярод беларускамоўных песень, што з’явіліся цягам апошняга года. Арганізаваць забаўляльныя мерапрыемствы, а не гэтыя кшталту “залезці па лесвіцы” і “правісець на турніку”. Кожны год хочацца ўбачыць сапраўднае свята беларускасці, дзе кожны знойдзе штосьці для сябе цікавае, абярэ музыку, якую ён хоча пачуць, але кожны год прыходзіць расчараванне...

**Старонкі 6 і 19 падрыхтавалі Зоя ХРУЦКАЯ і Наталля ТУР. Фота Наталлі ТУР. Больш фота глядзіце на сайце**

Rh.by



Падчас адкрыцця фестывалю кампазітару Эдуарду Ханку ўручылі віншавальны адрас з нагоды 75-годдзя.



Таіса Трафімава, паэтка.



Акцёры Віктар Манаеў і Павел Харланчук-Южакоў былі вядучымі адкрыцця фестывалю.

● ТРАДЫЦЫІ

# Згатавалі яешню для Хута і зляпілі абярэг

## На Вілейшчыне прайшоў квэст для дзяцей

ВІЛЕЙКА

**Ад пяцігадовых дзетак да дзесяцікласніц прынялі ўдзел у квэсце "За скарбам у краіну майстроў". Прайшоў ён 2 чэрвеня. Прадставілі квэст Ізбіноўская бібліятэка і майстры Дома рамёстваў.**

За скарбам адправіліся 16 дзяцей і падлеткаў.

Гэта ўжо другі квэст, што праводзяць тут. Летась ён прысвячаўся пірацкай тэме, сёлета – беларускім народным традыцыям. Адпаведна ўсё было па-беларуску.

– І калі адразу прагучала рэпліка: "Давайце па-руску", запярэчыла: "Дык вось не, сёння будзем па-беларуску", – расказвае бібліятэкарка Ізбіноўскай бібліятэкі **Іна Лазар**. – Дзеці нават ведалі, што такое "весці рэй". Калі спытала, хто будзе "весці рэй", адразу сказалі: "Капітан".

Дзеці даведаліся пра Кладніка, Вужынага караля, іншых персанажаў беларускага фальклору, танцавалі, гулялі, ляпілі з гліны абярэгі, вучыліся плесці паясы і вянкі. Здзейснілі падарожжа ў бібліятэку і знайшлі салодкі скарб.

Вельмі іх зацікавіла яешня, якую гатавалі, каб задобрыць Хута.

– У каго ў хаце паселіцца Хут, таму ён вельмі спрыяе ў жыцці: золатам з невядомых скарбаў адорвае, снапы з далёкіх чужых палеткаў у гумно прыносіць, – расказвалі дзецям.

Асабліва спадабалася дзецям ляпіць абярэгі з гліны, плесці паясы. Здзівіла Іну Лазар, што дзеці зусім не ўмеюць плесці вянкі – трэба было ім дапамагаць.

А вось беларускія народныя загадкі разгадвалі добра – так што Багніца парадавалася, якія разумныя дзеткі. Тут жа яны навучыліся танцаваць "Таўкачыкі" – і хораша атрымлівалася.

Прызналася Іна Лазар, што не толькі дзеці, а і яна пры падрыхтоўцы шмат даведалася пра беларускія паданні.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**





Фота bankoboev.ru.

● САКРЭТЫ ЖЫЦЦЁВАГА ПОСПЕХУ

# Як даглядаць за тварам цягам дня?

*"Каб быць прыгожай, недастаткова быць прыгожай"*. Поль Рэйналь.

**Прыгажосць – гэта дар прыроды, але за ім, як за капрызнай кветкай, патрэбны пастаянны догляд.**

Без рэгулярных касметычных працэдур – ніяк. Толькі яны могуць захаваць маладосць скуры і адсунуць старэнне. Каб нічога не прапусціць, трымайце пад рукой памятку. Няхай яна вам нагадвае, што і калі трэба рабіць для догляду за тварам.

### Догляд раніцай: трэба, трэба ўмывацца!

Першае, з чаго пачынаецца штодзённы догляд за тварам, – гэта ўмыванне. Хаця ноччу вы і спалі, скура адпачывала, а раніцай выглядае цудоўна – умывацца абавязкова.

За ноч на скуры збіраюцца адмерлыя часцінкі эпідэрмісу, а сальныя залозы ноччу ўвогуле не спяць, а выпрацоўваюць тлушч. Калі тлушч і адмерлыя часцінкі змешваюцца, то ўтвараюць на твары нібы маску, пад якой скура не можа дыхаць, таму ёй неабходны догляд.

Умывацца неабходна па-рознаму, усё залежыць ад тыпу скуры.

- для тлустай падыдуць такія гель ці пенка, якія крыху падсушваюць.
- для сухой дастаткова звычайнага апалосквання.

Пасля ўмывання пратрыце твар тонікам і абавязкова нанясіце крэм.

Калі надвор'е сонечнае, выбірайце крэм з засцерагальнай функцыяй. І наносьце не пазней, чым за 30 хвілін да выхаду.

### Догляд за тварам днём: часам варта і без касметыкі

Сурвэтка і новы слой пудры – вось і ўсё, што можна прапанаваць па доглядзе за тварам днём. Але ад дэкаратыўнай касметыкі варта на пэўны час адмаўляцца, калі стан твару турбуе – ён блішчыць, ёсць пачырваненні і прышчыкі, з'явілася лушчэнне.

Гэта неабходна, каб днём без праблем можна было тонікам прыбіраць лішкі тлушчу. А калі ён і сухі, то пасля ачышчэння будзе карысная дадатковая порцыя крэму.

### Догляд за тварам вечарам: змагаемся з маршчынкамі

Атакаваць маршчынкі і змагацца за здаровы колер твару трэба вечарам. Працэс абнаўлення клетак пачынаецца пасля 18 гадзін і дасягае піку каля апоўначы.

1. Спачатку здыміце касметыку малачком, гелем ці пенкай.
2. Апрацуйце твар скрабам. Пры тлустай скуры яго выкарыстоўваюць двойчы на тыдзень, пры сухой – не часцей за адзін раз на тыдзень.
3. Цяпер можна зрабіць маску. Яе пажадана рабіць не часцей, чым два разы на тыдзень.
4. Не мае значэння, якія працэдуры вы рабілі пасля зняцця касметыкі, але пасля іх абавязкова скарыстаце тонік. Толькі пасля яго можна нанесці начны пажыўны крэм. Ноччу скура актыўна ўсмоктвае карысныя рэчывы, таму начны крэм выбірайце асабліва ўважліва.

Будзьце прыгожымі, і няхай прыгажосць вас натхняе!

**Чытайце ў наступным нумары: догляд за тварам па раскладзе.**



**Юлія ФІЛІПОВІЧ, касметолаг**

ГІСТОРЫЯ

# Здзейсніць падарожжа па Першай сусветнай

МЯДЗЕЛ

**Фатаграфіі слядоў Першай сусветнай вайны і кавалак стогадовай драцяной загароды. Усё гэта можна пабачыць ў эколага-асветніцкім цэнтры Нацыянальнага парку “Нарачанскі” ў к. п. Нарач (Купа). Тут размешчаная экспазіцыя фотапраекта-даследавання “Іх лёсы злітыя разам ...”.**

У экспазіцыі – каля сарака фотаздымкаў рускіх і нямецкіх умацаваных збудаванняў, агнявых кропак, бліндажоў, камандзірскіх пунктаў, пахаванняў часоў Першай сусветнай. Ёсць карта-схема падзей. Цікавы экспанат – кавалак драцяной загароды, якую ўстанаўлівалі на лёдзе на шэрагу азёр. Знайшлі яе рыбакі на дне возера Вішнеўскае і перадалі ў цэнтр.

Праект пачаўся летась. Тады супрацоўнікі навуковага аддзела прыродаахоўнай установы і фотамастак і падарожнік **Васіль Белякоў** з Пастаў правялі своеасаблівую інвентарызацыю некаторых участкаў былой лініі фронту. Стварылі багатую калекцыю фотаздымкаў аб'ектаў стогадовай даўніны і іншых матэрыялаў у Мядзельскім, Пастаўскім, Вілейскім і Смаргонскім раёнах.

## На перадавых пазіцыях збудаванні ўзводзілі і па начах

– Адна з мэтаў фотапраекта-даследавання – даследаваць і прадэманстраваць факты, якія дазволілі б ацаніць як узровень ваеннага германскага фартыфікацыйнага мастацтва, так ступень гераізму воінаў расійскай арміі, стаўленне нашчадкаў да памяці ахвяр той паўзабытай вайны, – кажа намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнага парку “Нарачанскі” па навуковай рабоце **Валеры Люштык**.

Лічаць у Нацыянальным парку, што сляды падзей тых часоў заслугоўваюць пільнай увагі для распрацоўкі экскурсійных маршрутаў і віртуальных тураў. Якраз ужо распрацавалі інтэрактыўную карту з аб'ектамі Першай сусветнай. Яна выкладзена у інтэрнэце. Ахоплівае карта аб'екты на адлегласці больш за 70 кіламетраў.

Падчас працы над праектам удзельнікі даведаліся шмат цікавага. Дзесьці на перадавых пазіцыях абарончыя збудаванні ўзводзілі па начах. І рабіць гэта было трэба хуценька: будавалі за лічаныя дні.

– Нават архітэктура збудаванняў адрознівацца, як і падыходы да будаўніцтва розных кавалкаў лініі абароны, – кажа Валеры Люштык.

**– Мяне асабліва ўразіла сваёй грунтоўнасцю і выкарыстаннем усіх асаблівасцей мясцовасці сістэма фартыфікацыйных збудаванняў другой лініі нямецкай абароны ля вёскі Чучаліцы.**

## Даследаванні трэба працягваць

Разлічаны праект на тры-чатыры гады. Прыкладам, яшчэ шмат трэба зрабіць па выяўленні воінскіх пахаванняў.

Нямала адпачывальнікаў наведваюць эколага-асветніцкі цэнтр – як беларусаў, так і замежнікаў. У кнізе пажаданняў выказваюць прапановы, што трэба працягваць даследаванні, бо тэма гэта актуальная і невычэрпная.

Алесь ВЫСОЦКІ.



ПРЫРОДА

# Ля Нарачы хочуць зрабіць “Кветкі пры дарозе”

МЯДЗЕЛ

Ад 3 да 6 чэрвеня у Нарачанскім краі пабывалі навукоўцы-батанікі – у тым ліку, з батанічных садоў Беларусі, Польшчы і ЗША.

Цікавілі іх рэдкія расліны, завіталі яны ў дэндрасад. Папрацавалі таксама як эксперты ў магчымым праекце “Кветкі пры дарозе”. Ён тычыцца тэрыторыі ад вёскі Мікольцы да курортнага пасёлка Нарач (Купа). Па праекце там можна стварыць 10-12 экспазіцыйных ландшафтна-кветкавых пляцовак з раслін, якія растуць у дзікай прыродзе.

Мяркуецца, што праект будзе рэалізаваны на працягу трох-чатырох гадоў.

Алесь ВЫСОЦКІ.

КУЛЬТУРА

# На Нарачы ствараюць драўляныя скульптуры

МЯДЗЕЛ

Ад 10 да 19 чэрвеня ў курортным пасёлку Нарач (Купа) праходзіць абласное свята-конкурс майстроў драўлянай манументальнай скульптуры “Сонечная цеплыня дрэва”.

Прымаюць у ім удзел майстры з Гомельскай і Мінскай абласцей. Сярод іх – і два з Мядзельшчыны, паведаміла метадыст раённага арганізацыйна-метадычнага цэнтра Наталля Іванова.

Майстры ствараюць драўляныя скульптуры і арыгінальныя лавы. Па заканчэнні конкурсу гэтыя творы ўпрыгожаць Мядзельшчыну.

Алесь ВЫСОЦКІ.

СВЯТА

# Дзень малака правялі ў вілейскім каледжы

ВІЛЕЙКА

Адзначылі такім святам Міжнародныя дні малака і абароны дзяцей. Мерапрыемства прайшло 1 чэрвеня пад дэвізам “Піце дзеці малако – будзеце здаровыя”.

Повары каледжа напамайстэрску апрацавалі малако са сваёй вучэбнай гаспадаркі. Каманды “Кактэйльчык” (**Маргарыта Бугай, Вера Дуровіч**) і “Кефірчык”(**Эліна Кедо, Веранiка Манчак**) рыхтавалі стравы з малака і малочных прадуктаў. А гледачы з радасцю спрабавалі малочныя кактэйлі, фруктовы кефір, кефір з зелянінай, духмяныя сырнікі і найсмачнейшыя сыры – з разынкамі, кропам, перцам, зелянінай і нават агурком.

Пакуль повары гатавалі, гледачы адказвалі на пытанні віктарыны пра малако і малочныя прадукты. Пра ўсё гэта расказала педагог-арганізатар установы **Святлана Мацукевіч.**

Аддзел інфармацыі.

ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

# "Смаргонь" прайграла ў абласным дэрбі

**Футбольны клуб "Смаргонь" 31 мая дома прымаў "Ліду". Абедзве каманды выдатна правялі апошнія матчы. І тут гульню паказалі выніковую, асабліва ў пачатку.**


Фота з сайта fc-smorgon.by

Барацьбы ў матчы з "Лідай" хапала.

Смаргонцам пастаянна даводзілася адыгрывацца. Ужо да паловы першага тайма лік быў 2:2. У "Смаргоні" першы гол у адказ забіў **Сяргей Крот** з пенальці, другі – **Яўген Калінін**.

У другім тайме каманды на дваіх забілі толькі адзін гол. На 58-й хвіліне вызначыўся гулец "Ліды". І тут ужо адыграцца "Смаргонь" не здолела.

Галоўны трэнер ФК "Ліда" **Максім Лычоў** прызнаў, што "гульня была роўная і калі справедліва сказаць – нічыйная".

– Да гульцоў прэтэнзій няма, каманда настройвалася, змагалася. Але, паўтаруся, сапернік пакараў нас за ўласныя памылкі,– сказаў галоўны трэнер "Смаргоні" **Мікалай Рындзюк** у пасляматчавым каментары.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Забілі чатыры галы аўтсайдару

Пасля паражэння ад "Ліды", матч у Рэчыцы 6 чэрвеня для "чырвона-чорных" быў вельмі важны. Бывалі выпадкі, калі каманда займала апошнія месца, настройвалася на матч з фаварытам і давала сапраўдны бой.

Да таго ж з'явіліся праблемы са складам ў "Смаргоні". У "лазарэце" апынуліся адразу чацвёра гульцоў асновы: цэнтральны абаронца **Шмігера** і тры паўабаронцы – **Шуманаў, Жданок, Калінін**. Затое моладзь атрымала магчымасць праявіць сябе.

У першую паўгадзіну гульня праходзіла ў роўнай барацьбе. Каманды стваралі моманты ля чужых варот, але моцнай небяспекі яны не неслі. Толькі на 30-й хвіліне госці здолелі адкрыць лік. **Аляксандр Талканіца** абыграў абаронцу на рагу штрафной і навесіў мяч ў варатарскую, дзе **Уладзімір Казко** галавой замкнуў гэты навес. Забіты мяч ўсяліў упэўненасць смаргонскім футбалістам у свае сілы, і яны сталі ствараць небяспечныя моманты.

Праз дзесяць хвілін **Сяргей Крот** ў акружэнні дзвюх абаронцаў здолеў аддаць дакладную перадачу на пакінутага ў адзіноце **Аляксандра Талканіцу,** і апошні спакойна "расстраляў" галкіпера гаспадароў – 2:0.

Да перапынку лік не змяніўся, а вось у другім тайме смаргонцы пакінулі яшчэ дзве "прабоіны" ў рэчыцкім "караблі". Спачатку на 62-й хвіліне **Сяргей Крот** галавой скінуў мяч **Віталю Ганічу** і той дакладным ударам паслаў мяч у далёкі ад варатара кут варот – 3:0.

Яшчэ праз дзесяць хвілін **Аляксандр Дзегцяроў** па-майстэрску выканаў штрафны. Моцным і дакладным ударам ён не пакінуў ніякіх шанцаў варатару "Рэчыцы".

Як вынік – другая перамога "чырвона-чорных" з буйным лікам, пасля якой смаргонцы зноў вярнуліся на другі радок у турнірнай табліцы.

Наперадзе ў каманды два дамашнія паядынкі: 13 чэрвеня супраць "Смалявічаў-СТІ" і 21 чэрвеня супраць сталічных "Крумкачоў".

Уладзімір АМБРАСЕВІЧ,
Смаргонь.

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# Хто нашы сапернікі ў другой лізе?

МАЛАДЗЕЧНА

**Каманда "Маладзечна-ДЮСШ" уключаная ў тую зону другой лігі, дзе сабраныя прадстаўнікі паўночных і ўсходніх рэгіёнаў.**

Усяго тут, як і ў іншай зоне, дзесяць камандаў. Пасля двухкругавога турніру, чацвёра лепшых выйдуць у фінальную групу.

Разам з маладзечанцамі гуляюць "Ашмяны". Яны дэбютанты рэспубліканскага чэмпіянату. Амаль усе футбалісты летась выступалі за мінскі "Славянін" і занялі 21 месца. У сёлетнім сезоне гэты калектыў са сваім трэнерам асталяваўся ў Ашмянах, бо там ёсць магчымасць для таннай арэнды футбольнага поля са штучным пакрыццём.

Два астатнія дэбютанты нашай зоны – "Тарпеда" (Магілёў) і "Вікторыя" (Мар'іна Горка). Называць магілёўчан дэбютантамі язык не паварочваецца. Некалі ў 1992 годзе яны ў вышэйшай лізе разам з маладзечанскім "Металургам" пачыналі пісаць гісторыю суверэннага беларускага футбола. Часцей за ўсё змагаліся на роўных, але, помніцца, у 1996 годзе нашы дома перамаглі з лікам 5:0, і **Аляксандр Вяжэвіч** здзейсніў хет-трык. Апошнія некалькі гадоў гэта заводская каманда выступала на першынстве свайго горада.

"Асіповічы", "Спартак" (Шклоў), "Рагачоў", "Прыазер'е" (Верхнядзвінск) летась у фінальную групу не прабіліся. Як і "Маладзечна-2013", усе яны завяршылі сезон на "нацатых" пазіцыях. З пункту гледжання гісторыі выступленняў асобна стаяць асіпаўчане, якія доўгі час правялі ў першай лізе, а ў 1999 годзе нават адзначыліся на вышэйшых прасторах.

"Жлобін" і "Ждановічы" ў мінулым чэмпіянаце дабраліся да фінальнай групы, занялі адпаведна шостае і восьмае месцы. Дарэчы, жлобінцы пазалетась сталі чацвертымі, з'яўляліся пастаяннымі лідарамі другой лігі. Праўда, прайшоўшая зіма паставіла пад пагрозу існаванне каманды, грошы для заявачнага ўнёску знайшліся на "падаючым сцяжку". Паглядзім па ходзе сезона, ці пацвердзяць гэтыя два калектывы свае прэтэнзіі на месца ў фінальнай групе.

## Турнірная табліца пасля пяці тураў

| | Каманда | Ачкі |
|---|---|---|
| 1. | Ашмяны | 13 |
| 2. | Маладзечна | 13 |
| 3. | Вікторыя | 10 |
| 4. | Асіповічы | 9 |
| 5. | Тарпеда | 9 |
| 6. | Жлобін | 6 |
| 7. | Спартак-Шклоў | 4 |
| 8. | Рагачоў | 4 |
| 9. | Ждановічы | 2 |
| 10. | Прыазер'е | 1 |

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

НАВІНЫ

## ДЮСШ-4 забіла восем галоў

МАЛАДЗЕЧНА

ДЮСШ-4 з Маладзечна пасля разгромнага паражэння ў мінулым туры чэмпіянату вобласці па футболе рэабілітавалася. Ды як!

Дома 7 чэрвеня маладзечанцы накалацілі аж восем галоў у вароты ФК "Капыль", а свае вароты пакінулі "сухімі". Лік сустрэчы 8:0. Хет-трыкам вызначыўся **Сяргей Лавор**.

Шмат галоў было і ў матчы "Забудовы-Буд" і ФК "Нясвіж". Праўда, тут гульня была зусім "не ў адны вароты". Чысціцны прайгралі 3:4.

Што ў турнірнай табліцы? ДЮСШ-4 узнялася з дзясятага месца на шостае. "Забудова-Буд" апусцілася на 11-е. Гуляе ў чэмпіянаце 14 камандаў.

**Аляксандр Працкевіч** з "Забудовы-Буд" з шасцю галамі лідзіруе ў спісе бамбардзіраў.

Яшчэ чатыры футбалісты забілі па пяць галоў. Сярод іх і Сяргей Лавор з ДЮСШ-4.

## "Вілія" ўзнялася на другое месца

ВІЛЕЙКА

"Вілія" з Вілейкі таксама гуляла дома. І атрымала мінімальную перамогу над "Лівадзіяй-Юні" з Дзяржынскага раёна 1:0. Вырашальны гол забіў у канцоўцы першага тайма **Арцём Ермакоў**.

– Гульня склалася для нас удала, – падзяліўся нападаючы "Віліі" **Віктар Сяліцкі**. – Атакавалі, мелі шмат момантаў, а ў сапернікаў іх амаль не было – хіба што адзін. "Вілія" выйшла на другое месца ў чэмпіянаце.

## Кубак заваявалі "Буддэталі"

ВІЛЕЙКА

У спаборніцтвах на Кубак Вілейскага раёна 28 мая вызначылі найлепшую каманду. У фінале сустрэліся "Буддэталі" і "Шылавічы".

– Першы гол забілі "Шылавічы", – расказаў старшыня раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**. – Аднак сказалася майстэрства гульцоў "Буддэталяў". Яны забілі пяць галоў запар. І толькі ў канцы матча сапернікі забілі другі гол.

Вынік – 5:2 на карысць "Буддэталяў".

У матчы за трэцяе месца "Мехатроніка" была мацнейшай 2:0 за "Чурлёны".

## Вызначыўся першы фіналіст

ВІЛЕЙКА

Першы паўфінал традыцыйнага турніру па міні-футболе ў Вілейцы адбыўся 4 чэрвеня. У ім "Буддэталі" абыгралі "Юніёр" 5:1 і выйшлі ў фінал, паведаміў **Ігар Шабан.**

У другім паўфінале "Рубін" згуляе з "Мехатронікай".

## Юныя ашмянцы перамаглі на дамашнім турніры

АШМЯНЫ

На стадыёне ашмянскага фізкультурна-аздараўленчага комплексу 21 мая адбыўся турнір на прызы Беларускай федэрацыі футбола. Удзельнічалі каманды 2007-2008 гадоў нараджэння.

Сабралася шэсць камандаў. Футбольную акадэмію Fair Play прадстаўлялі дзве каманды. Былі таксама каманды з Мінска, Дзятлава і вёскі Калюга Смалявіцкага раёна.

Перамагла ў турніры каманда Fair Play-1 з Ашмянаў. Яна атрымала чатыры перамогі і адну нічыю, паведамілі з футбольнай акадэміі Fair Play з Ашмянаў.

## Мядзелец перамог на рэспубліцы

МЯДЗЕЛ

Ад 28 да 31 мая ў Гомелі праходзіла першынство рэспублікі сярод ДЮСШ па веславанні.

Найлепш з мядзельцаў выступіў выпускнік мясцовай СДЮШАР **Андрэй Васілевіч**. Ён перамог на байдарцы-адзіночцы на дыстанцыі 200 метраў. Андрэй увайшоў у склад зборнай Беларусі для ўдзелу ў Балтыйскіх гульнях у Германіі, распавёў дырэктар Мядзельскай СДЮШАР **Андрэй Малько.**

## Самыя спартыўныя медыкі – у Мядзеле

МЯДЗЕЛ, МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

У к. п. Нарач (Купа) 6 чэрвеня прайшла 30-я занальная спартакіяда "Здароўе" сярод работнікаў аховы здароўя. Удзельнічалі чатыры каманды. Сярод іх – тры з нашага рэгіёна: з Мядзела, Вілейкі, Маладзечна.

Спаборнічалі яны ў валейболе, дартсе, гіравым спорце, стральбе з пнеўматычным вінтоўкі, настольным тэнісе, конкурсе "Штрафны кідок".

Перамагла ў спартакіядзе каманда Мядзельскай цэнтральнай раённай бальніцы. Маладзечанцы сталі трэцімі, расказаў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Мядзельскага райвыканкама **Леанід Шыдлоўскі.**

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

**Як пісаць па-руску: "улица Бэзавая" ці "Сиреневая"? Спрачаюцца гісторыкі, філолагі і мовазнаўцы**

Не разумею, які сэнс у гэтай дыскусіі? Ёсць жа міжнародная практыка, ёсць Закон, у якім ужо ўсё распісана. Для чаго зноў пачынаць нейкія непатрэбныя спрэчкі? Ёсць, нарэшце, адмыслоўцы (пажадана без "саўка" ў галаве), якія мусяць займацца такімі пытаннямі. Ніхто ж не пачынае дыскутаваць накont таго, як правільна падганяць пуансон да матрыцы. Лепш бы распачалі дыскусію, ці патрэбныя нам свінакомплексы пад бокам. ***Алесь.***

**Мужчына і жанчына памяняліся ролямі – разбураюцца сем'і**

Дзякуй вялікі аўтару за артыкул! Я толькі цяпер зразумела, што для дзіцяці ў сям'і сапраўды патрэбна любоў бацькоў адзін да аднаго. Сама часта заўважала, як мой чатырохгадовы сын пытаецца: "Мама, а ты любіш тату? А я цябе вельмі люблю!") І ў таты тое самае. І прасіць, каб мы абняліся пры ім і далі "буську" адзін аднаму) ***Вікторыя.***

**Маладзечанскія раварысты далучыліся да руху "Крытычная маса": відэа з першага праезду**

Наступным разам і я са сваім роварам падцягнуся, будзе плюс адна дзяўчынка!) ***Жужжа.***

**Вучаніца з Мядзела заваявала званне "Фотамадэль свету" на міжнародным конкурсе талентаў і прыгажосці ў Турцыі**

Харошая дзяўчынка, тыповая беларусачка, вельмі мілая і нагадвае галоўную гераіню з "Цудоўнага веку", вядомага турэцкага серыяла. ***Зое.***

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Баявік "**Вяртанне героя**" (ЗША, з 16 год)
12, 13, 14 чэрвеня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма, баявік "**Анёл-ахоўнік**" (Германія, з 16 год)
12, 13, 14 чэрвеня – у 20:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Незвычайныя прыгоды Карыка і Вары**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
13, 14 чэрвеня – у 13:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Драма "**Вядзьмарка**" (Расія, з 16 год)
17, 18 чэрвеня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер "**Чорнае мора**" (Вялікабрытанія, з 16 год)
17, 18 чэрвеня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, прыгоды "**Захавальнік Месяца**" (3D, Іспанія, Аргенціна, без узроставых абмежаванняў)
12, 13, 18 чэрвеня – у 14:00
14 чэрвеня – у 12:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды "**Свет Юрскага перыяду**" (3D, ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
12, 17 чэрвеня – у 18:30, 21:00
13, 14 чэрвеня – у 16:00, 18:30 і 21:00
18 чэрвеня – у 20:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Пінгвіняня Параро: Вялікія гонкі**" (3D, Паўднёвая Карэя, Кітай, без узроставых абмежаванняў)
13 чэрвеня – у 12:00
14, 17 чэрвеня – у 14:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя "**Даблтрабл**" (2D, Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
18 чэрвеня – у 18:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 8 | 2 | | | | 7 | | 4 |
| | | 9 | | | | | | |
| | | 2 | | | | | 8 | |
| | 6 | 1 | | | | | | 5 |
| 2 | | 5 | 6 | | 8 | 3 | | 7 |
| 3 | | | | | | 1 | 6 | |
| | 2 | | | | 3 | | | |
| | | | | | 9 | | | |
| 9 | | 7 | | | | 5 | 1 | 6 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.





Фота забяспечана Аленай РАКЕЦКАЙ

Юныя мастакі стваралі на асфальце маляўнічы свет дзяцінства.

● АДПАЧЫНАК

# У Вілейцы малявалі "Краіну Дзяцінства"

ВІЛЕЙКА

**Раённае свята, прысвечанае Міжнароднаму дню абароны дзяцей, прайшло 1 чэрвеня.**

Пачалося яно канцэртам юных віляйчан у Палацы культуры. У гарадскім парку культуры і адпачынку на працягу амаль дзвюх гадзін дзеці малявалі на асфальце "Краіну Дзяцінства". Паўдзельнічалі ў конкурсе каманды вучняў з 11 устаноў агульнай сярэдняй адукацыі

– У кожнай каманды-ўдзельніцы была свая ідэя, задума, якую дзеці спрабавалі выказаць, – расказала метадыст раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Алена Ракецкая.**

Для ўсіх гасцей і ўдзельнікаў свята наладзілі канцэртна-гульнявую праграму. Супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях паказалі, як працуе аварыйна-выратавальнае абсталяванне і пажарная тэхніка.

Скончылася свята наведваннем атракцыёнаў у гарадскім парку.

**Аддзел інфармацыі.**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, прыгоды "**Суперкаманда**" (3D, Іспанія, Аргенціна, 2015, без узроставых абмежаванняў)
16 чэрвеня – у 16:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Анімацыя "**Захавальнік Месяца**" (3D, Францыя, 2015)
13 чэрвеня – у 12:20 (цана білета: 30 000)
17 чэрвеня – у 16:30 ( 25 000)

Анімацыя, прыгоды "**Пінгвіняня Параро: Вялікія гонкі**" (3D, Паўднёвая Карэя, Кітай, 2015)
14 чэрвеня – у 12:20
Цана білета: 15 000 рублёў

Трылер, баявік "**Разлом Сан-Андэрс**" (3D, ЗША, 2015, з 16 год)
13 чэрвеня – у 14:20
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя "**Дабл трабл**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
12 чэрвеня – у 17:00
14 чэрвеня – у 14:10
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды "**Свет Юркскага перыяду**" (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
12, 13 чэрвеня – у 19:20 (55 000 рублёў)
12, 13 чэрвеня – у 22:00 (60 000 рублёў)
13 чэрвеня – у 16:40 (30 000 рублёў)
14 чэрвеня – у 16:10
14, 15, 16, 17 чэрвеня – у 18:50, 21:30 (55 000 рублёў)
18 чэрвеня – у 19:00

Прэм'ера! Анімацыя, камедыя, сямейны "**Галаваломка**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
18 чэрвеня – у 16:50
Цана білета: 30 000 рублёў

Прэм'ера! Жахі "**Астрал 3**" (ЗША, Канада, з 16 год)
18 чэрвеня – у 21:40
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Пушыстыя супраць зубастых**" (Паўднёвая Карэя, 2012, без узроставых абмежаванняў)
12 чэрвеня – у 16:00 (15 000 рублёў)
14 чэрвеня – у 16:30 (20 000 рублёў)

Анімацыя "**Прыгоды мышаняці**" (Аргенціна, Перу, 2013, без узроставых абмежаванняў)
13 чэрвеня – у 15:00
14 чэрвеня – у 14:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**Чароўны лес**" (Францыя, 2012, без узроставых абмежаванняў)
13 чэрвеня – у 17:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**Джасцін і рыцары доблесці**" (Іспанія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
15 чэрвеня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя "**Монстры на востраве**" (Канада, Японія, 2011, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
16 чэрвеня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя "**Олі і скарб піратаў**" (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
17 чэрвеня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Прыгоды "**Мост у Церабіцію**" (ЗША, 2006, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
18 чэрвеня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя "**Прывід**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
12 чэрвеня – у 21:00
13 чэрвеня – у 19:00
14 чэрвеня – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Меладрама "**Усё, акрамя кахання**" (Аўстралія, 2012, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
14 чэрвеня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прыгоды "**Мае афрыканскія прыгоды**" (Данія, 2013, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
12 чэрвеня – у 18:30
13, 15 чэрвеня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя "**Вясёлыя рабяты**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
16, 18 чэрвеня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер "**Горад грахоў 2: Жанчына, дзеля якой варта забіваць**" (ЗША, 2014, з 18 год)
17 чэрвеня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92**, **77-06-30**

● ГАРАСКОП 5-11 ЧЭРВЕНЯ

**Авен.** Вас чакае бурны перыяд, мора эмоцый. Не губляйце толькі кантроль над сваім бюджэтам.

**Цялец.** Не адступайце ні перад якімі цяжкасцямі, і рана ці позна вы дасягнеце сваёй мэты. Верце ў свой поспех, і ў вас усё атрымаецца.

**Блізняты.** Траціце грошы па сваіх магчымасцях і не залазьце ў даўгі. Жывіце свабодна. Даўгі не дазволяць вам гэтага зрабіць.

**Рак.** Займіцеся добраўпарадкаваннем свайго жылля, абнаўленне падорыць вам лёгкасць і натхненне. Плануйце адпачынак і ў марах бывайце там, куды б вам хацелася паехаць. І ўсё здзейсніцца.

**Леў.** Вы можаце адпачыць, пафантазіраваць, памарыць. Магчыма, у вашым асяроддзі знойдуцца людзі, якія захочуць пераказаць свае праблемы на вас. Не будзьце мяккасардэчнымі, навучыцеся казаць "не".

**Дзева.** Вы любіце быць "на краі зямлі". На рабоце марыце пра дачу, на дачы – пра рыбалку, на рыбалцы – пра работу. І такі кругаварот усё жыццё. Вам не пазайздросціш.

**Шалі.** Зоркі дапамагаюць тым, хто не азіраецца назад, не баіцца заўтрашняга дня, не пасуе перад цяжкасцямі і верыць у тое, што ўсё будзе добра. Бо як вы сёння думаеце пра будучыню, такой яна і будзе. Жывіце лёгка, успрымайце жыццё як спектакль, у якім вы іграеце сваю ролю. І не рабіце з мухі слана.

**Скарпіён.** Вы станеце падвержаныя перападам настрою, асабліва ў выхадныя дні. Пастарайцеся стрымліваць сябе ў канфліктнай сітуацыі.

**Стралец.** Не будзьце прывязаныя да меркавання ці перакананняў грамадства. Будзьце адкрытыя для любой магчымасці ці ідэі. Вы здзівіцеся, як шмат магчымасцяў дае жыццё, калі іх не адкідаць.

**Казярог.** Не прыдзірайцеся да свайго партнёра і не павучайце яго. Такія вашы паводзіны цалкам могуць стаць прычынай вялікай сваркі.

**Вадалей.** Поспех ваш – у ведах. Вам трэба падумаць, як падняць планку свайго прафесіяналізму, каб прасунуцца ў кар'еры. Чым больш будзеце ведаць, тым больш новых дзвярэй адчыніцца перад вамі.

**Рыбы.** Верце ў сябе, любіце сябе. Ведайце, што вы для сябе – самы галоўны. І кожны чалавек для сябе – самы галоўны.

Марыя УРБАНОВІЧ.

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

## НАДВОР'Е

### 13 чэрвеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +12 / +24 | | +14 / +27 | | +18 / +30 | | +19 / +30 | |
| | 744 | → 2 | 740 | ↑ 6 | 735 | ↑ 6 | 732 | ↑ 7 |
| Вільня | +9 / +22 | | +13 / +26 | | +18 / +27 | | +12 / +23 | |
| | 752 | → 2 | 747 | ↑ 5 | 743 | ↗ 3 | 740 | ↖ 5 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 4.38
Захад 21.46
Даўжыня дня 17.08

Усход 3.04
Захад 17.52
Квадра 4




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература +5,6°С у 1991 годзе
Максімальная тэмпература +30,5 °С у 1999 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 19,5 мм у 2012 годзе
Назіранні за 38 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Пакой пакутаў, этнапляцоўка і выступленні факіраў. Якія яшчэ цікавосткі чакаюць гледачоў фэсту "Гонару Продкаў 2015" у Вілейцы, чытайце праз тыдзень.



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 24 (1050) 12.06.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 784. Падпісана ў друк у 9.00 11.06.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Ваша любімая беларуская песня?

**Такое пытанне мы задалі начальнікам аддзелаў ідэалогіі, культуры і па справах моладзі нашага рэгіёна.**



**Аляксандр Рамановіч, Маладзечна:**
– Любімая песня, якую заўсёды спяваю разам з артыстамі на канцэртах, песня ансамбля "Сябры" "Гуляць дык гуляць".



**Вікенці Адамовіч, Валожын:**
– Напэўна, любімая ўсё ж "Мой родны кут" Ігара Лучанка. Але пасля фестывалю ў Маладзечне вельмі да душы прыйшоўся варыянт песні "Люблю мой край" у выкананні ансамбля "Бяседа".



**Сяргей Паўлоўскі, Вілейка:**
– "А я лягу-прылягу", першая песня, што прыйшла ў галаву. Песня напісаная на словы Ніла Гілевіча. А яшчэ ў "Сяброў" шмат добрых песень: " ...і кружыць недасяжны ў небе жураvель". Здаецца, такія словы ў той песні.



**Ірына Пазняк, Мядзел:**
– У мяне столькі любімых песень, што я нават разгубілася. Хаця ёсць адна, яе выконвала Ганна Радзько. "Азёры дабрыні". Магу запець: (спявае) "Я знаю, хто любіць душою блакіту прасторы, у сэрцы таго дабрыні і спагады азёры, святла і спагады азёры".



**Галіна Балінская, Ашмяны:**
– Самая любімая песня "Месяц спрятался за рощу". Песня народная, я памятаю яе з дзяцінства і заўсёды ў кампаніях спяваю сама. На жаль, пакуль не ўдалося знайсці, хто аўтар слоў гэтай песні. А што датычыцца беларускіх песень, то люблю ансамблі "Церніца" і "Свята". І ведаю ўсе іх песні.



**Наталля Сенюць, Астравец:**
– Самая любімая песня з нядаўняга часу – гэта песня "Караблі" Дзмітрыя Калдуна. Магчыма, таму, што я з ім нядаўна пазнаёмілася асабіста. Разам схадзілі на экскурсію па горадзе, паказалі яму атамную электрастанцыю. І выконваў ён гэту песню не зусім звычайна. Дзмітры стаяў на трохметровай калонцы і спяваў яе там.



**Таццяна Ражава, Смаргонь:**
– Самыя любімыя песні, песні Уладзіміра Мулявіна. Яны вельмі цёплыя і кранальныя. З сучасных выканаўцаў магу адзначыць Дзмітрыя Калдуна. У яго шмат песень з густам.

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**